*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 35 (523) 29 ЖНІЎНЯ 2001 г.

## “Галасуйце за Ўладзіміра Ганчарыка!”

### праграмны выступ Сямёна Домаша на Беларускім тэлебачанні 21. 08. 2001 г.

**Вітаю Вас, шаноўныя грамадзяне!**

На мінулым тыдні быў дадзены старт выбарчай кампаніі прэзідэнта. Мы выйшлі на фінішную прамую. 9 верасня Вы будзеце вырашаць: ці жыць, як жывём, ці мы ўсё ж такі будзем жыць па-новаму.

Нядаўна адзін мой знаёмы распавёў такую гісторыю. Ён вяртаўся цягнікам з аднаго з абласных цэнтраў Беларусі. Жанчына паскардзілася яму на сваю жыццёвую, асабістую сумную, але, па сутнасці, тыповую сітуацыю. Яе муж пакрыху співаецца. “Я яго разумею, - гаворыць яна, - я шкадую яго. Раней ён добра зарабляў, у яго залатыя рукі, прыносіў грошы, а зараз... Зараз ён п’е ад сораму, толькі б не глядзець мне і дзецям у вочы, таму што нармальны здаровы мужык сёння, у нашай Беларусі, ужо дастаткова зарабіць не можа”.

І другое. Звярніце ўвагу, як на вакзалах ці ў другіх месцах бабулі гандлююць семкамі, гароднінай, цыгарэтамі – усім, чым хочаш, - каб проста фізічна выжываць, а маладыя хлопцы, якія пайшлі ў міліцыю дзеля высакароднай мэты – змагацца са злачыннасцю і абараняць нас, замест гэтага праганяюць іх з месца гандлю. Бо ім так загадалі.

Што за ўсім гэтым праглядаецца?

**Вынік нашага сямігадовага жыцця**

Да чаго мы прыйшлі? Ці пра гэта мы марылі сем гадоў таму, калі выбіралі дэмакратычным шляхам першага прэзідэнта сваёй кроаіны?

Магчыма, не ўсім спадабаецца тое, што я скажу, але я ўсё роўна скажу: нас усіх зрабілі дурнямі.

Сем гадоў таму на гэтым месцы перад Вамі сядзеў другі чалавек. Ён тады шмат каму спадабаўся. Памятаеце, што ён абяцаў?

Ён абяцаў усё і ўсім.

Моладзі ён абяцаў перспектывы, старым кампенсацыю спаленых зберажэнняў тэлевізарамі, халадзільнікамі і машынамі, высокія, годныя пенсіі. Працоўным – запусціць заводы, задушыць інфляцыю. Ён абяцаў знішчыць карупцыю, адправіць – я гэта памятаю добра – хабарнікаў самалётам у Гімалаі.

А што атрымалася?

Сёння ў Беларусі, пэўна ўжо трэба не адзін самалёт, каб вывезці ўсіх тых, хто бярэ хабар, і ўсіх казнакрадаў, таму што ўсе яны знаходзяцца пад адной “крышай” – неабмежаванай уладай аднаго чалавека, якому служаць. Злачынцамі ж аб’яўляюць, зыходзячы з палітычнай мэтазгоднасці.

Наш народ быў яшчэ раз абдураны ў 1996 годзе. Атрымліваецца, мы ўсе прагаласавалі за тое, каб мясцовых кіраўнікоў мы не выбіралі, а нам прызначалі; больш таго, атрымліваецца, мы з вамі ўсе разам вырашылі, што ў нашай краіне можна ствараць нікім не кантраляваны так званы прэзідэнцкі фонд – колькі там грошай, не ведае ніхто. Нават міністр фінансаў разводзіць рукамі і кажа, што анічога пра гэта не ведае.

*(Працяг на 2-й ст.)*



## Дабро вашаму дому

### Тэзісы праграмы кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ганчарыка

**Паважаныя суайчыннікі!**

Мне аказаны высокі давер удзельнічаць у выбарах у якасці кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь. Я гатовы разам з вамі будаваць новую, багатую, цывілізаваную Беларусь. Са мной каманда прафесіяналаў: эканамістаў і юрыстаў, урачоў і педагогаў, работнікаў навукі і культуры, кіраўнікоў вытворчасці. Са мной – людзі розных нацыянальнасцяў і веравызнанняў, жыхары горада і вёскі, моладзь і пенсіянеры.

Я ўпэўнены ў перамозе, таму што са мной вы – людзі сумлення, людзі слова і справы, людзі гонару.

Мая каманда прапануе заснаваную на шматгадовым досведзе багатых дэмакратычных краінаў стратэгію ўстойлівага эканамічнага і сацыяльнага развіцця. Пры гэтым будзе ашчадна захаванга і прыўмножана ўсё лепшае, што створана працай папярэдніх пакаленняў.

Мая праграма – гэта праграма гарантый кожнаму грамадзяніну нашай краіны.

Эканоміка. Сённяшняя сістэма дзяржаўнага кіравання эканомікай пабудавана па прынцыпу: хто больш заробіць – у таго больш забіраюць, хто не выканае заданне – таго караюць, хто незадаволены парадкамі – той рызыкуе свабодай і жыццём. Гэтаму будзе пакладзены канец.

Гарантую аднаўленне вяршэнства закона, у тым ліку пад дэкрэтамі і ўказамі Прэзідэнта, адмену пазасудовага парадку забірання маёмасці. У самы кароткі час будуць створаны спрыяльныя ўмовы для раўнапраўнага, эфектыўнага гаспадарання прадпрыемстваў і арганізацый усіх формаў уласнасці, уключаючы малое і сярэдняе прадпрымальніцтва. Будзе ўведзена заяўкавы прынцып рэгістрацыі суб’ектаў гаспадарчай дзейнасці. Сфармавана здаровае канкурэнтнае асяроддзе, рынкавая інфраструктура, у т.л. грашова-крэдытны, валютны і фондавы рынкі.

Будзе забяспечана рэальная незалежнасць банкаўскай сістэмы, спынена выдача эмісійных крэдытаў. Устаноўлены аптымальны абменны курс беларускага рубля. Дзяржава, як і грамадзяне, будзе жыць па сродках. Будуць скарочаны нерацыянальныя дзяржаўныя выдаткі, у тым ліку ўпарадачана структура і колькасць дзяржаўнага апарату, кантрольных і сілавых органаў. Перагледжаны парадак і аб’ёмы фінансавання масавых мерапрыемстваў, будаўніцтва дарагіх аб’етаў і г.д.

На працягу года будзе зменена сістэма падаткаў у бок іх зніжэння і скарачэння, значна скарочана колькасць ліцэнзаваных відаў дзейнасці, за лішні кантроль і праверкі. У інтарэсах дынамічнага развіцця Беларусі, яе абласцей і рэгіёнаў будзе забяспечана рацыяльнае выкарыстанне выгаднага геапалітычнага становішча. Спрошчаны мытныя працэдуры і зніжаны пошліны, у першую чаргу тыя, што абмяжоўваюць увоз і укараненне перадавых тэхналогій. За кошт падатковых ільготаў і дзяржаўных гарантый намечана прыцягнуць унутраныя і знешнія інвестыцыі для тэхнічнага пераўзбраення і рэструктарызацыі прадпрыемстваў прамысловасці, сельскай гаспадаркі, энергетыкі, развіцця транспартных камунікацый, сувязей, турызму, страхавой справы, стварэння новых эфектыўных працоўных месцаў.

*(Працяг на 3-й ст.)*



# Да выбараў другога прэзідэнта Рэспублікі Беларусь засталося 11 дзён





# "Галасуйце за Ўладзіміра Ганчарыка!"

## праграмны выступ Сямёна Домаша на Беларускім тэлебачанні 21. 08. 2001 г.

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1)*

Газета "Новые Известия" неяк назвала суму: 2 млрд. 200 млн. долараў – гэта па 2200 на кожнага жыхара Беларусі з улікам немаўлят.

Дзе гэтыя грошы?

Гэта што – мы з Вамі прагаласавалі за тое, каб адзін чалавек схаваў іх ад нас і мог, калі захоча, пакласці іх сабе ў кішэню ці выкарыстаць іх так, як яму спадабаецца!

Дык за якіх жа дурняў ён лічыць нас з Вамі!

... І як апошняя кропка – знікненне людзей, вядомых палітыкаў: Захаранкі, Ганчара, Красоўскага, аператара расійскага тэлебачання Завадскага – і гэта ў ціхай, талерантнай Беларусі... Паглядзіце ў вочы іхнім жонкам, маці, дзецям, паслухайце, што яны Вам скажуць.

Пры гэтым – поўнае маўчанне ўлады.

Дакладней, яна адказала: калію недзяржаўнай прэсе з'явіліся матэрыялы аб існаванні экскадронаў смерці, замест расследавання і тлумачэння, пачаўся наезд на тых людзей, хто гэта агучыў.

Як меў рацыю Васіль Быкаў, калі казаў, што кожная дыктатура ў рэшце рэшт заканчвае забаронай на жыццё людзей – у цяперашнім беларускім варыянце гэта забарона на наша з вамі жыццё.

У нас ужо скрадзены сем гадоў, а гэта дзесятая частка чалавечага жыцця – і жадаюць скрасці яшчэ як мінімум пяць.

Спытайце ў сваіх дзяцей, у сваіх унукаў, ці згодныя яны з з такой доляй?

Аднак зразумелы – мы ўсе яго ведаем. Адсюль вынікае, што мы павінны змяніць сітуацыю. Гэта патрэбна нашым дзецям і ўнукам. Няўжо мы і іх не павінны паслухаць?

Але шмат хто кажа: "Что я могу сделать? Я маленький человек..." Аднак ужо сёння добра вядома, што нас, нязгодных з гэтым рэжымам, больш за 70 працэнтаў. І што – мы ўсе маленькія людзі?

Я скажу Вам: **НЕ БЫВАЕ МАЛЕНЬКІХ ЛЮДЗЕЙ – БЫВАЮЦЬ МАЛЕНЬКІЯ МЭТЫ.**

**ДАВАЙЦЕ ПАСТАВІМ ПЕРАД САБОЮ ВЯЛІКУЮ МЭТУ – І МЫ СТАНЕМ ВЯЛІКІМ НАРОДАМ, ЯКІ ЖЫВЕ Ў ГОДНАЙ КРАІНЕ.**

* * *

Мяне часта называюць беларускім нацыяналістам, асабліва тут, на беларускім тэлебачанні.

Чаму?

Можа, таму, што ў адрозненне ад многіх прадстаўнікоў цяперашняй улады, я магу свабодна гаварыць па-беларуску.

У мяне часта ў памяці ўзнікае гісторыя.

Неяк раз на вакзале ў Вільні я браў у касе білет. Перада мной стаяла два чалавекі. Першы звярнуўся да касіршы па-польску, і яна адказала яму па-польску. Наступная жанчына літоўка – і з касіршай яны паразмаўлялі па-літоўску.

Я вырашыў: "А ну, паспрабую", – і задаў пытанне па-беларуску. І што Вы думаеце? – мне адказалі на някепскай беларускай мове.

Дык што, нашы беларускія чыноўнікі тупей гэтай літоўскай касіршы?

Ніяк не магу з гэтым пагадзіцца! І вось чаму. У пачатку 90-х, калі я быў мэрам Горадні, аднойчы на мітынгу, куды я быў запрошаны, пачуў абвінавачванне ў тым, што беларускія ўлады не ведаюць беларускай мовы. Я падумаў: "Я ж беларус, скончыў беларускую школу, няўжо я забыўся сваю родную мову?"

Прыйшоў дадому, узяў слоўнік і пару раз яго прачытаў ад пачатку да канца. Наступнае паседжанне выканкаму я правёў па-беларуску.

Натуральна, што праз некалькі месяцаў амаль усе службоўцы гарвыканкаму размаўлялі на беларускай мове. Дык гэта што – нацыяналізм?

Мая мара, каб у Беларусі Быкава, Купалу, Караткевіча чыталі па-беларуску; Пушкіна і Гогаля – па-руску, прашпект "Майкрасофт" – па-ангійску, а каталог "Фальксфагена" – па-нямецку.

Галоўнае пры гэтым не прымушаць, а паказаць прыклад – і людзі самі да гэтага прыйдуць.

І не трэба нас сцкоўваць, называючы адных нацыяналістамі, другіх радыкаламі, а трэціх касмапалітамі. Мы ўсе – беларусы, рускія, яўрэі, украінцы, палякі, татары – і ёсць народ Беларусі. І мы ўсе хочам, каб у нашай дзяржаве ўсім жылося добра.

Толькі разам мы пабудуем дом наш – Беларусь.

Не трэба нас сцкоўваць і з нашымі суседзямі ні на Ўсходзе, ні на Захадзе, таму што і гісторыя нашай краіны і яе геаграфія ўжо вызначылі ролю Беларусі: наша краіна – гэта мост паміж Усходам і Захадам.

У мінулыя стагоддзі гэтая беларуская спецыфіка мела трагічнае адценне, усе еўрапейскія войны пракочваліся па нашай зямлі, пакідаючы на ёй глыбокія раны.

Аднак сёння нашае геаграфічнае становішча можа стаць бясспрэчнай перавагай: цераз гэты мост могуць пайсці велізарныя транзітныя плыні сыравіны, тавараў і фінансаў.

Толькі абслугоўваючы гэты транзіт Беларусь можа хутка падняцца на ногі і ў найкарацейшы тэрмін стаць багатай краінай.

Што ж гэтаму замінае?

Каб адказаць на гэтае пытанне, у думках уявім сабе мост. У кожнага маста павінны быць, як мінімум дзве апоры: у нашым выпадку імі павінны стаць апора заходняя, еўрапейская і апора ўсходняя, расійская.

Але ці ёсць сёння ў нас гэтыя апоры? Давайце паглядзім.

"Заходняя апора".

За апошнія 7 гадоў улады Беларусі ўмудрыліся сапсаваць адносіны з усімі суседзямі, абвясціць па сутнасці халодную вайну ўсяму Захаду.

Беларусь стала сусветным ізгоем, аказалася ў міжнароднай ізаляцыі.

Іншымі словамі, замест "заходняй апоры" ў нас утварыўся "заходні тупік".

Больш таго сённяшні кіраўнік дзяржавы ў свеце не ўспрымаецца, як законны і, як вынік, не можа адстойваць інтарэсы Беларусі.

Адпаведна не могуць быць прызнаныя законнымі любыя палітычныя і эканамічныя ініцыятывы сённяшніх беларускіх уладаў.

На гэтым фоне становяцца ненадзейнымі і нашыя адносіны з Расіяй, якая з'яўляецца "ўсходняй апорай" нашага маста.

Сёння многім зразумела, што саюз з Расіяй – для сённяшніх беларускіх уладаў з'яўляецца не больш, чым шпікуляцыяй, і дыктуецца жаданнем пад шумок гнаць у Расію заходні тавар, правезены цераз мытню на заходніх межах без акцызаў і пошлінаў. Практычна кантрабандным шляхам.

Ці варта здзіўляцца, што адносіны з Расіяй становяцца ўсё горшымі: паглядзіце, як пачасціліся ў апошні час выпадкі кантролю расійскім бокам за таварам, які ідзе цераз Беларусь і, як наступства, нападкі Лукашэнкі на расійскую ўладу, прычым звыкла па-хамску, як на сваёй селектарнай нарадзе.

Такім чынам і другая апора – ўсходняя, расійская фактычна вісіць у паветры і падтрымліваецца толькі хліпкімі прапагандысцкімі падпоркамі.

Падвядзём вынік: таго маста паміж Расіяй і Еўропай, якім магла стаць Беларусь, сёння не існуе і не прадбачыцца пры гэтай уладзе. Сённяшні рэжым разбурыў і працягвае разбураць яго апоры.

І бессэнсоўна абвінавачваць у гэтым Заходнюю Еўропу ці Расію. Нельга перакладаць віну з хворай галавы на здаровую – лячыць трэба не здаровых, а хворых.

Відавочны абсалютны правал знешняй палітыкі сённяшняй улады.

І гэты правал з'яўляецца працягам правалу ўнутранай палітыкі.

Успомнім: у лістападзе 1996 года ў краіне адбыўся дзяржаўны пераварот. Быў зліквідаваны Вярхоўны Савет, а пасля з грубымі парушэннямі нават новай рэдакцыі Канстытуцыі была сфармавана, а па сутнасці прызначана так званая Палата прадстаўнікоў.

У выніку быў растаптаны Закон, і ўсе мы, увесь 10-мільённы народ, сталі закладнікамі нораву аўтары-тарнага ўладара, яго вельмі прымітыўных уяўленняў пра грамадства.

Многія, перш за ўсё кіраўнікі ўсіх узроўняў, пазбавіліся ўяўленняў пра тое, што можна, а чаго нельга.

Разбурана прававая свядомасць грамадства, людзі прывыкаюць да думкі, што ўсе праблемы можна вырашыць не з дапамогай закону, а з дапамогай сілы.

Права стала інструментам барацьбы з палітычнымі супраціўнікамі рэжыму.

Сёння ў Беларусі быць кіраўніком – адна з самых небяспечных прафесій. Кіраўнікі прадпрыемстваў, гаспадарак, фірмаў, дзяржаўных установаў, прадпрымальнікі працуюць ва ўмовах тэрору кантрольных органаў.

Паглыбляецца раскол грамадства, што стварае найпрасцейшую пагрозу і беларускаму народу і беларускай дзяржаве.

Калі пакінуць усё, як ёсць, калі не змяніць гэты рэжым, нас непазбежна і вельмі хутка чакае катастрофа.

Ці ёсць выйсце з гэтай сітуацыі? Так, ёсць. І мы яго бачым.

Я не буду даваць вам пустых абяцанняў. Я назаву вам некалькі паслядоўных крокаў, якія абавязкова павінны быць зроблены, і выкананне якіх кожны з вас можа пазней праверыць.

**Крок першы: аднавіць уладу закону**

Што гэта азначае?

Гэта азначае, што перш за ўсё неабходна правесці свабодныя і дэмакратычныя выбары ў паўнавартасны Парламент па прапарцыйна-мажарытарнай сістэме і следам правесці канстытуцыйную рэформу.

Затым забяспечыць судам сапраўдную незалежнасць ад заканадаўчай і выканаўчай улады.

Гэта значыць, мы ліквідуем тое самае тэлефоннае права, пра якое мы ведаем, і ад якога многія з нас пацярпелі.

Што адбываецца зараз?

Суддзяў зараз не выбіраюць, а прызначаюць. Большасць з іх жыве ў службовых кватэрах, таму за любое няўгоднае начальству рашэнне іх могуць не толькі звольніць, але і выкінуць з дзецьмі на двор.

Таму мы мае тое, што маем.

Адначасова з першым **крокам трэба зрабіць і другі крок: паставіць дзяржаўную ўладу пад кантроль грамадства**

Зараз шмат хто гаворыць: "Ну выберам іншых – што гэта дасць: прыдуць гэтыя галодныя і будуць красці яшчэ больш".

Як гэтага пазбегнуць?

Для гэтага існуе прэса і тэлебачанне, гэта па сутнасці – санітары грамадства. Калі яны сапраўды будуць вольныя ад свавольства ўлады і яе чыноўнікаў, то ўжо будзьце пэўныя, яны свайго не ўпусцяць: кожны таемны асабнячок ці рахунак у банку, яны выставяць на ўсеагульны агляд. І гэта нармальна! На тое і шчупак у сажалцы, каб карась не драмаў.

Вы можаце спытаць: а як абараніцца ад паклёпу. Мне гэтае пытанне зразумелае, як нікому іншаму. Колькі, колькі выліта на мяне бруду хаця б нават вось тут на гэтым тэлебачанні – гэта не кожнаму дасталося. Мой адказ: у прававой дзяржаве абарона адна – Закон і незалежны суд.

Для забяспячэння свабоды слова мы цалкам вызвалім СМІ ад хоць якога кантролю з боку чыноўнікаў.

А колькасць дзяржаўных СМІ наогул павінна быць зведзена да мінімуму.

Апазіцыйная прэса – неабходная ўмова жыцця любой дзяржавы, як, між іншым, і, наогул апазіцыя.

Нядаўна ў так званай Палаце прадстаўнікоў адзін разумнік прапанаваў наогул адмяніць апазіцыю. Ну што на гэта можна адказаць: палатка – яна і ёсць палатка.

І яшчэ: мы абавязкова ўстановім паўнапраўныя партнёрскія адносіны з усімі палітычнымі партыямі, грамадскімі аб'яднаннямі, прафсаюзамі і рэлігійнымі канфесіямі.

Стварыўшы такім чынам у грамадстве атмасферу даверу можна

**зрабіць трэці і, мабыць,галоўны крок: паслядоўнае пераўтварэнні ў эканоміцы**

Эканоміку трэба паставіць з галавы на ногі. Лячыць яе трэба не заклікамі, загадамі і пагрозамі, а прымяненнем механізмаў стымулявання.

Рэформы не будуць мець абвальнага характару, а будуць паступовымі, паслядоўнымі і беспаваротнымі.

Яны будуць праводзіцца не дзеля рэформаў, а дзеля таго, каб стварыць новыя працоўныя месцы, падняць зарплату рабочым, мадэрнізаваць вытворчасць, павысіць яе эфектыўнасць.

Перш за ўсё трэба скараціць колькасць падаткаў і істотна іх паменшыць.

Досвед Расіі паказаў, што рэзкае скарачэнне падаткаў вядзе да значнага павелічэння паступленняў у бюджэт. Мы будзем выкарыстоўваць станоўчы досвед усіх нашых суседзяў па правядзенню рэформаў, а таксама ўлічым памылкі, каб іх пазбегнуць.

Напрыклад, абсалютна ясна, што неабходна ліквідаваць усе перашкоды на шляху развіцця прадпрымальніцтва, палепшыць заканадаўства, увесці заяўкавы прынцып стварэння юрыдычных асобаў.

Трэба таксама падумаць пра тое, каб прыватныя прадпрымальнікі (малы і сярэдні бізнес) на нейкі час, на два-тры гады – былі наогул вызвалены ад падаткаў. Трэба даць ім прыйсці ў сябе – з іх і так ужо ўсе сокі выціснулі.

Гэта і яшчэ многае іншае будзе зроблена нашай галоўнай мэты – стварыць такія магчымасці, каб чалавек мог зарабіць столькі, колькі ён хоча і колькі можа, а не задавальняцца тымі 100 доларамі ЗША, якія абяцае Лукашэнка (заўважце, абяцае доларамі ЗША, а не цвёрдымі беларускімі грашовымі знакамі).

Мы створым краіну магчымасцяў, каб на добрасумленна заробленыя грошы кожны грамадзянін Беларусі мог пабудаваць сабе дом, абсталяваць яго, забяспечыць жыццё сваёй сям'і.

Ні і нарэшце,

**зробім чацвёрты крок: створым клімат даверу для прыцягнення інвестыцый**

Мадэрнізацыя прамысловасці, укараненне найноўшых тэхналогій, забяспячэнне энергетычнай і сыравіннай базы магчымы толькі пры адкрытай эканоміцы, лібералізацыі знешнеэканамічнай дзейнасці і прыцягненні замежных інвестыцый.

Перш за ўсё трэба ўсвядоміць, што без рэалізацыі ўсіх папярэдніх крокаў гэтую задачу не вырашыць.

Акрамя таго неабходна стварыць і спецыфічную заканадаўчую базу, для таго, каб укладзеным у беларускую эканоміку грашам было камфортна і бяспечна.

Трэба таксама падумаць і пра прыцягненне ў краіну на адпаведных умовах замежных банкаў з ліку найбольш аўтарытэтных.

Мы вырашым пытанне прыцягнення замежнага капіталу ў хімічную галіну, дзе становішча сённяшні дзень блізка да крытычнага.

Для прыкладу, на гарадзенскім "Азоце" ўжо 3 гады не абнаўляюцца на дастатковым узроўні асноўныя фонды, а гэта пагражае катастрофай, якую можна параўнаць з чарнобыльскай.

Толькі пасля рэалізацыі гэтых крокаў мы зможам з упэўненасцю сказаць: так мы сумелі цывілізаванай краінай, так мы сталі мастом паміж Расіяй і Еўропай.

# Дабро вашаму дому

## Тэзісы праграмы кандыдатаў у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ганчарыка

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1)*

Адзін з прыярытэтных кірункаў – развіццё навукі, укараненне ў вытворчасць навуковых дасягненняў, падтрымка маладых перспектыўных навукоўцаў, працаўладкаванне выпускнікоў навучальных установаў. Стане даступным валоданне кампутарам, замежнымі мовамі. Дзяржаўная падтрымка вытворцаў на вёсцы будзе забяспечвацца цераз фінансаванне мэтавых праграм, падтрымання парытэту цэнаў на прамысловую і сельскагаспадарчую прадукцыю. Уключэнне зямлі ў эканамічны абарот прадугледжваецца ажыццяўляць строга ў межах, установленых законам, у інтарэсах грамадзян і юрыдычных асобаў, грамадства ў цэлым.

Будзе праведзена эканамічна абгрунтаваная спецыялізацыя і каапераццыя сельскагаспадарчай вытворчасці, забяспечана яго інтэнсіфікацыя. Калгасам і саўгасам будзе прадстаўле права дабраахвотна пераўтварацца ў самастойныя аб'яднанні таваравытворцаў на аснове свабоднага выбару формаў уласнасці і арганізацыі вытворчасці.

Будзе адноўлены статус спажывецкай кааперацыі, як недзяржаўнай грамадскай арганізацыі.

Сацыяльная сфера. Дзяржавай будзе гарантавана працаздольным праца, немачным – дапамога і клопат. Пераадоленне беднасці і жабрацтва, гэтак жа, як і сацыяльнага нахлебніцтва, стане асноўнай задачай дзяржавы.

Гарантую сацыяльную справядлівасць, рэальнае павышэнне дабрабыту ўсяго грамадства, а не часткі грамадзян, павагу да прадукцыйнай і якаснай працы. На працягу года будзе праведзена рэформа заработнай платы, паэтапна ўстаноўлены яе мінімальны памер на ўзроўні пражытачнага мінімуму, затым – мінімальнага спажывецкага бюджэту. Адменены неабгрунтаваныя абмежаванні ў аплаце працы, у тым ліку ў бюджэтнай сферы. Забяспечаны ўдзел работнікаў у размеркаванні прыбыткаў. Устаноўлена адзіная стаўка падаходнага падатку.

Будзе забяспечана своечасовая выплата пенсій і дапамогаў, павышаны іх памер. Адноўлены неабгрунтавана адабраныя ільготы ветэранам вайны і працы, інвалідам, ахвярам палітычных рэпрэсій, пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы, істотна палепшана забеспячэнне ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і прыраўненых да іх асобаў. Праведзена кампенсацыя банкаўскіх укладаў насельніцтва з улікам росту спажывецкіх цэнаў.

У імя захавання і развіцця нацыі будзе створана дзейсная сістэма абароны мацярынства і дзяцінства, стымулявання дзеценараджальнасці, эфектыўнай адраснай сацыяльнай падтрымкі сем'яў.

Развіццё адукацыі, аховы здароўя і культуры будзе весціся па прынцыпу ўсеагульнай даступнасці і грамадска прымальнай якасці, зацвярджэння здаровага ладу жыцця, пераадолення п'янства і наркаманіі.

У цэнтры ўвагі дзяржавы будзе развязванне жыллёвай праблемы. Далейшае развіццё атрымае будаўніцтва жылля, ільготная крэдытная падтрымка грамадзян, якія маюць у ім патрэбу, з улікам іх даходаў, перш за ўсё маладым сем'ям, а таксама прадаж жылля ў крэдыт.

Важнейшай часткай дзяржаўнай палітыкі стане пераадоленне наступстваў чарнобыльскай катастрофы. У мэтах аховы здароўя людзей будзе перагледжаны статус "чарнобыльскіх" раёнаў. Зняты перашкоды для атрымання гуманітарнай дапамогі, наладжана выразная сістэма аздараўлення насельніцтва, у першую чаргу дзяцей, забяспячэнне забруджаных раёнаў чыстымі прадуктамі і лекамі.

Дзяржаўнае будаўніцтва. Эфектыўная народная дзяржава – гэта ўлада народа і для народа.

У мэтах вяртання ўлады народу гарантую:

перагледзець і пашырыць правы і паўнамоцтвы парламенту, ураду, органаў мясцовага самакіравання;

• аб'яднаць усе дзяржаўныя сродкі і фонды, акрамя Фонду сацыяльнага страхавання, у кансалідаваны дзяржаўны бюджэт;

• аднавіць кантроль парламенту і мясцовых Саветаў за выкананнем бюджэтаў усіх узроўняў, скарыстаннем дзяржаўнай уласнасці.

Будуць рэальна забяспечаны канстытуцыйныя правы грамадзян, уключаючы права на свабоду слова, веравызнанняў, недатыкальнасці і годнасці асобы.

На працягу першых ста дзён праведзена рэабілітацыя незаконна асуджаных, аднаўленне правоў незаконна звольненых, у тым ліку работнікаў Менскага метрапалітэну за ўдзел у штрайку 1995 года, забаронены законам палітычны вышук і слежка. Будуць прынятыя вычарпальныя меры па ўстанаўленні вінаватых у знікненні людзей, у тым ліку вядомых палітычных і грамадскіх дзеячоў.

Адноўлена незалежнасць судовай сістэмы, выбарнасць суддзяў усіх узроўняў, забяспечана дзейсная барацьба са злачыннасцю, карупцыяй, чыноўным "беспределом". Палепшана праца праваахоўчых органаў, у першую чаргу па абароне маёмасных правоў грамадзян (кватэры, дачы, транспарт і т.п.), павышаны іх аўтарытэт сярод насельніцтва, матэрыяльны і тэхнічны рыштунак.

Будзе праведзена рэформа Узброеных Сілаў на прынцыпах дастатковасці для забеспячэння бяспекі і суверэнітэту краіны. У гэтых мэтах будзе павышана іх прафесійная падрыхтоўка, палепшана матэрыяльнае забеспячэнне, падняты статус вайскоўцаў, скарочаны тэрмін вайсковай службы, уведзены альтэрнатыўная служба, ажыццёўлены паступовы пераход да прафесійнага войска. Выпрацаваны і ажыццёлены меры па вызваленню і працаўладкаванні вайскоўцаў і работнікаў закрытых вайсковых гарадкоў.

Будуць створаны неабходныя ўмовы для развіцця нацыянальнай культуры і мовы, прымянення нацыянальнай гістарычнай сімволікі.

Гарантую палітычным партыям, грамадскім арганізацыям права на ўдзел у выбарах у парламент і мясцовыя органы ўлады, доступ да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі.

Стасункі органаў дзяржаўнага кіравання з прафесійнымі саюзамі, аб'яднаннямі наймальнікаў будуць ажыццяўляцца на прынцыпах сацыяльнага партнёрства і эфектыўнасці ўзаемадзеяння.

Знешняя палітыка: шукаць сяброў, а не ворагаў. Прыярытэт – інтарэсы Беларусі, яе народа.

Гарантую хуткае пераадоленне міжнароднай ізаляцыі Беларусі, умацаванне палітычных і эканамічных партнёрскіх адносінаў з Расіяй, развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з Украінай і іншымі краінамі, уступленне Беларусі ў агульнаеўрапейскія структуры.

Наша праграма грунтуецца на здаровым сэнсе, эканамічным інтарэсе і палітычнай волі. Для выканання яе падрыхтаваны эканамічна і сацыяльна абгрунтаваны план практычных дзеянняў будучага ўраду.

Мы будзем дзейнічаць разумна, па-гаспадарску.

Мы не абяцаем – мы зробім!

# Першы тайм мы, амаль праігралі...

За апошні тыдзень у краіне адбылося шмат розных палітычных падзей, звязаных з прэзідэнтскімі выбарамі. Прычым фактар беларушчыны праходзіў праз іх чырвонай рысай ў кожным выпадку.

Пачнем з пятага кангрэсу дэмакратычных сілаў, што адбыўся ў Менску 18 жніўня і дзе ТБМ мела квоту сорок дэлегацкіх месцаў. На самой справе актывістаў нашай арганізацыі было значна болей, бо яны былі дэлегаваны сюды таксама ад самых розных партый і рухаў.

На гэты раз мы ішлі да чарговага Кангрэсу вельмі марудна і цяжка. Прадстаўнікі левых сілаў, якія зараз гуртуюцца вакол Васіля Лявонава выступалі да апошняга супраць склікання Кангрэсу. Замест яго яны пранеслі на паседжанне аргакамітэту Кангрэсу рускамоўны праект правядзення 18 жніўня ў Менску форуму шырокай грамадзянскай (народнай) кааліцыі з мэтай падпісання Грамадзянскага ***Пагадэкэння*** з адзіным кандыдатам. (І гэта ў той час калі ***пагадненне*** ўжо было падпісана 13 жніўня!).

Галоўная ж мэта вельмі просая, ліквідаваць канчаткова права- цэнтрысцкую кааліцыю, якая вынесла на сваіх плячах змаганне з рэжымам і канчаткова перахапіць у свае рукі грамадзянскую і палітычную ініцыятыву.

Аднак сябры аргкамітэту не першы год займаюцца палітыкай і прадстаўнікі Васіля Лявонава атрымалі "гарбуза".

Нягледзячы на жнівеньскую спякоту на адсутнасць на кангрэсе Валянціны Палявіковай, Міколы Статкевіча і Васіля Лявонава, кангрэс здолеў сабраць больш чым 800 дэлегатаў з усёй Беларусі і быў першым на Беларусі палітычным форумам дзе выступалі з прамовамі на добрай беларускай мове Сямён Домаш і Уладзімір Ганчарык.

Упершыню стала канчатковай зразумела стратэгія на выбарах адзінага кандыдата.

Ён спадзяецца, што людзі прагаласуюць за яго таму, што ім ужо надакучыў Лукашэнка, а мясцовая наменклатура з гэтых жа прычынаў не будзе займацца фальсіфікацыяй выбараў.

Таму правыя сілы не вельмі яму і патрэбны, бо перамога і так ужо ў кіжэні. Ганчарык вельмі спяшаўся на пленум сваіх сяброў камуністаў і таму вельмі хутка зышоў з Кангрэсу забраўшы з сабою Домаша. Частка дэлегатаў таксама пабегла ўслед за імі, а астатнія, пасля перапынку, агітавалі за перамогу Ганчарыка саміх сябе, што з боку выглядала дзіўна і нават смешна.

Пленум камуністаў, заслухаўшы прамовы Ганчарыка і Домаша, вырашыў падтрымаць Ганчарыка, а спадар Калякін распавёў журналістам, што Домаш 21 жніўня здыме сваю кандыдатуру.

Дарэчы ў гэтыя дні на Домаша быў зроблены шалёны ціск левых, для якіх ён значна больш небяспечны чым Лукашэнка, бо збіраецца праводзіць сапраўдныя рэформы, а не будаваць сацыялізм у адной асобна ўзятай краіне. Шкада, што з імі аб'ядналіся і некаторыя правыя лідэры, у тым ліку і кіраўнікі БНФ, якія, на маю думку, канчаткова страцілі палітычнай рэальнасці і згодны на ролю статыстаў у масоўцы пад кіраўніцтвам Васіля Лявонава.

Не здолеўшы разваліць Кангрэс спадар Лявонаў мусіў, зняць маску і выйсці адкрыта на палітычную арэну. 19 жніўня ў Менску адбыўся пад яго кіраўніцтвам устаноўчы сход руху " За новую Беларусь". Як пісала газета "Дзень" 21 жніўня "Яго ўдзельнікі выйшлі з ценю і актывізавалі сваю дзейнасць у працы па будаўніцтву новай Беларусі".

Цікава, што перашкаджала ім аб'ядна́цца раней? Зусім іншую ацэнку гэтай з'яве 21 жніўня зрабіла "Народная воля", галоўны рэдактар якой вельмі спрыяе раскрутцы новых беларускіх левых. Нягледзячы на тое, што Лявонаў здолеў сабраць з усёй Беларусі толькі 300 дэлегатаў (у адрозненні ад V Кангрэсу Домаша) "Народная воля" вызначыла гэтую з'яву як лёсавызначальную падзею. Побач на першай паласе надрукаваны зварот Васіля Лявонава, ужо як даверанай асобы У. Ганчарыка да кіраўнікоў усіх узроўняў у якім ён называе сам сябе "лідарам грамадскага руху, які спрыяў вулучэнню адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі".

Цікава, што перашкодзіла Лявонаву зрабіць у дзвюхмоўнай газеце свой зварот на роднай матчынай мове, і куды глядзяць вядомыя беларускія паэты і пісьменнікі, якія ўвайшлі ў кіраўніцтва "Новай Беларусі"? Няўжо яны збіраюцца разам з Лявонавым будаваць новую Беларусь без беларускай мовы і культуры?

Дарэчы, ніводзін журналіст не адзначыў аб прыхільнасці новых лідараў левых да беларушчыны. Як можна зразумець з публікацый прэсы статут "Новай Беларусі" таксама напісаны і прыняты на рускай мове. Магчыма ёсць і беларускі адпаведнік, але мы пра яго нічога не ведаем.

Не гледзячы на моцны ціск левых і практычную здраду правых Сямён Домаш у гэтыя дні паказаў сябе моцным палітыкам, які можа паднясца на палітычным рынгу нават з накдаўну. Ён зрабіў два добрых грунтоўных інтэрвію аб праграме будучага ўраду ў "Свободных новостях" і "Белорусской газете" і някепска выступіў на "БТ" 21 жніўня, паказаўшы, што такое рэальнае, а не ўяўнае дзвюхмоўе ў сённяшняй беларускай сітуацыі. Як сапраўдны мужчына і палітык, які трымае сваё слова, Сямён Домаш 22 жніўня зняў сваю кандыдатуру і стаў даверанай асобай Уладзіміра Ганчарыка.

У гэты час штаб Ганчарыка не агітаваў за свайго кандыдата , а стараўся развaліць штабы Сямёна Домаша. Так напрыклад, тыя палітыкі, якія ў свой час заваліці кааліцыю Станіслава Шушкевіча, ужо стаўшы прадстаўнікамі Ганчарыка, практычна знішчылі гродзенскі абласны штаб Домаша. Прадстаўнікі дэмакратычных сілаў Ліды, дзе рэальных людзей Ганчарыка на працягу выбарчай кампаніі навогул не было, стварылі ўласны штаб у падтрымку адзінага кандыдата і распачалі дзейнасць без усялякай падтрымкі цэнтра.

Учора я бачыў аднаго з кіраўнікоў ТБМ з Асіповічаў, дзе ішоў актыўны збор за Домаша і Пазьняка. Мы паведамілі, што настрой простых людзей у Асіповічах такі, што калі не будзе ў спісах Домаша, у якога вельмі сімпатычны твар то яны прагаласуюць за Лукашэнку, бо ён маладзейшы за Ганчарыка: Як і ў іншых малых гарадах і мястэчках ніякай кампаніі за Ганчарыка тут пакуль не вядзецца.

Гэтую сітуацыю вельмі добра адчуў Сяргей Гайдукевіч, які спрабуе заняць пустую правую нішу, называючы Ганчарыка камуністам. Ён зараз выказваецца за рэальнае дзвюхмоўе, за пераход на беларускую мову ўсяго дзяржаўнага справаводства, пашырэння беларускамоўных школ і беларускае выкарыстанне беларускае мовы ў сістэме вышэйшай адукацыі.

Калі ён пратрымаецца ў такім тэмпе да канца выбарчай кампаніі, 10-15% галасоў выбаршчыкаў яму забяспечаны, прычым забярэ ён іх у Ганчарыка, а неў Лукашэнкі.

Таму Васіль Лявонаў, разам з тымі вядомымі асобамі якія зараз згуртаваліся вакол яго павінна былі не раз сабрацца і падумаць, што важней: чапляцца да апошняга за Ганчарыка, як мага хутчэй зняць Домаша і прайграць ужо ў першым туры, альбо пакінуць абодвух, ці прапанаваць Ганчарыку саступіць месца больш маладому і энэргічнаму палітыку, які мае канкрэтныя шанцы на выйгрыш. Аднак справа зроблена, Домаша сярод кандыдатаў у Прэзідэнты ўжо няма, можна апранаць белы фрак і піць шампанскае. Адно хачу сказаць сябрам Лявонава. Не забывайце шаноўныя кіраўнікі новага руху, што спроба стварыць "Новую Беларусь" ужо была ў 1992 годзе, па ініцыятыве Міхася Ткачова. Але тады самаўпэўненыя правыя сілы з БНФ задушылі гэтую добрую ідэю на корані.

*Алег Трусаў.*
*22 жніўня 2001 г.*





# Палітычны лахатрон па-маскоўску

*Як ажыццяўляецца трэці – маскоўскі сцэнар беларускіх выбараў.*

Раней хіба адзін Пазьняк казаў пра тое, што расейскія спецслужбы захочуць замяніць Лукашэнку на больш зручную ёй асобу і з гэтай мэтай "раскручваць" на Беларусі свайго стаўленіка. Тады гэта лічылі трызненнем параноіка-русафоба. Цяпер жа гэтую тэзу ўсе лічаць чымсці саму сабой зразумелай, і пра гэта ўсе гавораць адкрытым тэкстам. Знакавай праявай гэтага, напрыклад, быў артыкул Оргіша, дзе ён раскрываў сутнасць маскоўскага ўдзелу у прыходзе Каштуніцы да ўлады ў Югаславіі. Масква падтрымвала Мілошавіча, але ў апошні момант замяніла яго на палітыка, прыймальнага ейным інтарэсам – нацыяналістычнага, антызаходняга – але па выглядзе для Захаду дэмакратычнага. Тое ж самае павінна было б паўтарыцца і на Беларусі, бо Масква стамілася ад выхадак Лукашэнкі, падтрымваючы яго, яна псавала дарагія ёй адносіны з Захадам, таму яна пачала б шукаць больш паслухмяную замену. Сп. Оргіш прапаноўваў беларускай апазіцыі пайсці насустрач Маскве, бо маўляў інтарэсы Масквы і апазіцыі былі агульнымі – прыбраць Лукашэнку. (Праўда, што цікава, яшчэ раней сп. Оргіш прапаноўваў адваротнае: Масква хоча замяніць Лукашэнку, яму гэта відавочна, таму інтарэсы апазіцыі і Лукашэнкі агульныя і таму апазіцыя павінна пайсці насустрач Лукашэнку. Проста ўзнікае захапленне сп. Оргішам як генератарам арыгінальных і часам дыяметральна супрацьлеглых прапаноў!). Пазней у беларускай прэсе з'явіліся перадрукі матэрыялаў расейскіх аналітыкаў. Паводле іх, калі выбары у Беларусі будуць праходзіць самі па сабе, бяз вонкавага ўмяшання, то магчымыя два варыянты падзеяў, непрыймальныя для Расеі. Першы: на выбарах пераможа кандыдат ад апазыцыі, незалежнік, які не будзе прымаць пад увагу расейскія інтарэсы і пагоршыць дачыненні Беларусі з Расеяй. (*Зразумела, што Расея заўжды ў дрэнных дачыненнях з тым, хто не зважае на яе інтарэсы. – **ад аўтара***). Другі варыянт – Лукашэнка пераможа, але праз два гады эканамічны стан пагоршыцца да немагчымага, што выльецца ў народны бунт, і Лукашэнка будзе скінуты. (*Хоць гэтага і не было напісана, але можна меркаваць, што пасля такога скідання Лукашэнкі да ўлады прыйдзе чалавек, разгляданы ў першым варыянце – **ад аўтара***). Каб не дапусціць гэтых двух непрыймальных для Масквы варыянтаў, маскоўскія аналітыкі распрацавалі трэці варыянт: з шэрагаў апазіцыі павінен выйсці чалавек, які будзе адпавядаць маскоўскім інтарэсам.

Некаму можа здацца незразумелым, чужым і надуманым непрыняцце "маскоўскага чынніку". Маўляў, галоўнае – скінуць Лукашэнку, а з Масквой трэба сябраваць, з Масквой трэба падтрымваць узаемавыгадныя дачыненні, трэба ўлічваць зрусіфікаванасць беларусаў і іхнюю арыентаванасць на расейскую маскультуру, а таксама наяўнасць у іх сваякоў у Расеі і г.д. і г.д. Але няўжо ўсе забылі, што Лукашэнку ў 1994 г. прывяла да ўлады менавіта Масква, каб ён служыў яе інтарэсам? Пра гэта ўжо столькі пісана-перапісана – можаце знайсці гэта ў падшыўках. Тады таксама ў Расеі былі аналітычныя матэрыялы пра магчымасьць прыходу незалежніцкіх ("нацыяналістычных") сілаў да ўлады ў Беларусі і пра патрэбу свайго "прадстаўніка". Толькі за адзін месяц Лукашэнку з дапамогай мясцовых васальных спецслужбаў зрабілі з нікога ўсім, калі стварылі розныя скандалы вакол яго асобы (стрэл у Лёзне, скрадзены фэн у самалёце, падраны пінжак і г.д.), калі з дапамогай саксотаў у цывільным стварылі ў тралейбусах, у чэргах, на прахадных заводаў ілюзію таго, "што народ пра яго кажа" і г.д. Выбар паў менавіта на яго, бо ён паспеў засвяціцца з "антыкарупцыйнай дзейнасцю". На працягу сямі год Лукашэнка аддана служыў інтарэсам Масквы. Масква маніпулявала ім: прадстаўнікі ейных спецслужбаў нашэптвалі яму, быццам ён можа стаць прэзідэнтам Саюзу Расеі і Беларусі (бо ён быў "збіральнікам славянскіх земляў" і быў у супрацьвагу Ельцыну маладым-здаровым), яны стварылі яму ілюзію падтрымкі у расейскіх рэгіёнах – для таго, каб Лукашэнка дзеля такой вялікай мэты ахвяраваў падкантрольнымі яму здабыткамі беларускай дзяржавы – заводамі, тэрыторыямі, інфраструктурай, пасадамі і г.д. (*Падрабязна пра гэта – у артыкуле д-ра Клінко ў "Нашай свабодзе"*). У выніку ён паставіў на гульню і аддаў Маскве амаль усё, але не выйграў нічога. Няўжо ж дагэтуль не відавочна, што пад палітыкай "добрых дачыненьняў" з Масквой сама Масква заўжды мела на ўвазе **толькі свае** інтарэсы? Пра якую ўвагу да беларускіх інтарэсаў можна казаць: **ці не Масква забіла нават таго ж Машэрава**, бачачы нават у ім залішнюю "самасційнасць"? **Няўжо мы не бачым на прыкладзе Лукашэнкі, да чаго даводзяць краіну сябры Масквы?!**

Назіраючы за ходам кампаніі "Адзіны дэмакратычны кандыдат", робіцца бачным, што гэты трэці варыянт ажыццяўляецца; бачна, якім бруднымі метадамі дзейнічае Масква, каб падчас беларускіх выбараў абараніць свае інтарэсы. Задоўга да выбараў было немагчыма зразумець, ці знайшла Масква ўжо свайго стаўленіка, і, калі – так, то каго канкрэтна. Але відавочна было, што яна нейкім чынам пачне ягоную папулярызацыю сярод аўдыторыі не толькі дэмакратычнай, але і Лукашэнкі. Такім чынам, з аднаго боку гэта павінен быў быць апазіцыянэр, а з другога – не. На ролю такіх падыходзіла шмат новаспечаных апанентаў Лукашэнкі. Меркавалася, што папулярызацыя кандыдата будзе тым эфектыўней, чым раней. Але прапаганда ніводнага не была чымсці асаблівым, што магло б вельмі ўразіць электарат і вельмі "засвяціць" кандыдата, як гэта было ў 1994 г. з "антыкарупцыйнай дзейнасцю" Лукашэнкі. Гэта стала зразумелым толькі нядаўна. Тэма знікнення Завадскага была ва ўсіх на слыху, гэта было важкім абвінавачваннем Лукашэнку у знішчэнні палітычных апанентаў, у ягонай злачыннасці, што ўзмацнілася, калі ўзніклі падставы казаць пра тое, што Завадскага забіў "эскадрон смерці" Лукашэнкі. Гэтая тэма пануе у інфармацыйнай прасторы Беларусі, не ў апошнюю чаргу дзякуючы расейскаму ТБ (бо гэта ж і іхні журналіст). У прэсе пішуць пра тое, як гэтай справай займаюцца і беларускія, і расейскія спецслужбы, што для іх пачаліся перашкоды, калі яны намацалі нешта важнае. Раптам у руках не міліцыянта, не следчага, не спецслужбіста, не прыватнага дэтэктыва, – у руках лідара прафсаюзаў узнікаюць дакументы пра забойства Завадскага, пра "эскадрон смерці" Лукашэнкі і г.д., і дакументы паказваюцца і агучваюцца перад прэсай. Сапраўдная сенсацыя, сапраўдны скандал! І па супадзенні гэты лідар аказваецца адным з кандыдатаў у прэзідэнты Ганчарыкам! Усе ў захапленні: ён не пабаяўся сказаць праўду ў твар рэжыму, які бясстрашны выкрывальнік! Вось які чалавек варты быць прэзідэнтам! Але чаму не знайшлося цікаўных, якія б спыталі: раскажыце, калі ласка, як вы шукалі гэтыя дакументы, як праводзілі аператыўна-следчыя мерапрыемствы, як не спалі начамі – хіба гэта не цікава? Раскрыць падобнае дзяржаўнае злачынства змажа не любы просты чалавек. Зразумела, што Ганчарык не следчы, што гэтыя дакументы яму падаравалі, і зразумела: хто і дзеля чаго падаравалі – расейскія спецслужбы, якія пра гэта шмат ведалі. Агучванне Ганчарыкам тых дакументаў і паказала, на каго ставіць Масква. (Зрэшты, зыходзячы з таго, што за сем гадоў уся ўлада ў Беларусі і нават спецслужбы сталі падкантрольныя Маскве, робіцца зразумела і тое, хто і дзеля чаго заварыў рукамі беларускіх спецслужбаў гэтую справу з Завадскім. Гэтая справа рыхтавалася задоўга і дзеля гэтых выбараў, каб у патрэбны час даць дакументы, каму патрэбна. На Украіне апрабавалі дакладна такі ж варыянт – з забойствам журналіста Гангадзэ і агучваньнем камуністам Марозам стужак з голасам Кучмы. Падрабязна пра гэта можна прачытаць у зборніку артыкулаў д-ра Клінко.)

Агучванне Ганчарыкам дакументаў – не адзінае сведчанне ажыццяўлення Масквою "трэцяга варыянту". "Трэці варыянт" прадугледжваўся, каб не дапусціць вылучэння у якасці альтэрнатывы Лукашэнку кандыдата ад беларускай апазіцыі (які паводле маскоўскіх аналітыкаў мусіў пайсці ў разрэз з маскоўскімі інтарэсамі). Калі аналізаваць хроніку з вылучэннем "адзінага дэмакратычнага кандыдата", робіцца бачным ажыццяўленне "трэцяга варыянту". Ідэю вылучэння на прэзідэнцкіх выбарах адзінага дэмакратычнага кандыдата – вылучыла сама "аб'яднаная апазыцыя", а дакладней Каардынацыйная Рада Дэмакратычных Сілаў (КРДС) – аб'яднанне партыяў і арганізацыяў, якія змагаліся супраць рэжыму Лукашэнкі. КРДС была не адна антылукашэнкаўская сіла у Беларусі (былі таксама асобныя сілы, як КХП, ЛДПБ, хаця апошняя – вельмі ўмоўна), але з іх усіх толькі КРДС мела найбольшае значэнне на антылукашэнкаўскім полі. Рашэнне пра вылучэньне "адзінага" было спрычыненае неабходнасцю перамогі над Лукашэнкам, якая была б магчымай толькі пры аб'яднанні рэсурсаў розных антылукашэнкаўскіх сілаў ды іх электаратаў. Зразумела, што вылучыўшы такога кандыдата, КРДС не забараняла б вылучацца нікому іншаму, але яна, па-першае, ня трапіла б на такога сваіх матэрыяльных і людскіх рэсурсаў, а па-другое, яна б не арыентавала на яго свой электарат. Заканамерным стала рашэнне КРДС вылучаць кандыдата са сваіх шэрагаў. Бо калі нехта не быў і не працаваў разам з апазіцыяй супраць Лукашэнкі, то як можна спадзявацца на такога чалавека? Тым не менш знайшліся пакрыўджаныя, якія заявілі, быццам КРДС хоча манапалізаваць волю народа. Гэтыя пакрыўджаныя самі праяўлялі жаданне вылучацца, і заяўлялі нешта накшталт: "Я вылучаюся, бо не лічу, што КРДС мае права казаць ад імя народа." (што, між іншым сведчыла, што яны лічаць сябе правамоцнымі на гэта). Потым да такіх далучыўся і Ганчарык, які быў увесь час асобна ад апазіцыі і КРДС і не змог ператварыць Фэдэрацыю Прафсаюзаў Беларускую у рэальную і ўплывовую антылукашэнкаўскую сілу. Ён таксама не лічыў КРДС правамоцнай і намерваўся вылучацца. Што павінна была б зрабіць КРДС? Яна павінна была б сказаць: "Ну і вылучайся сабе. Хто ты наогул такі, чым ты прыцягнеш да сябе нашых выбаршчыкаў, ты ж ніколі ня ўдзельнічаў у барацьбе апазіцыі з Лукашэнкам?". Але чамусці КРДС спужалася, што ён расколе галасы антылукашэнкаўскага электарату, і запрасіла яго да сябе, у склад КРДС. Гэта яна палічыла кампрамісам, хаця па сутнасці яна проста спужалася дробнага шантажу. (Яшчэ яна цешыла сябе спадзевамі, што Ганчарык зможа далучыць да апазіцыйнай дзейнасці ягоныя прафсаюзы.) Далей было яшчэ дзіўней. Усе ў КРДС, у тым ліку з яго новымі чальцамі, падумалі: нарэшце, ужо раз і назаўжды, вызначаць у межах самой КРДС адзінага кандыдата простым галасаваннем па кандыдатурах, і калі нехта набярэ больш галасоў, то ўсе астатнія здымуць свае кандыдатуры і пачнуць працаваць на пераможцу. Прайшло галасаванне па трох кандыдатурах – Домашу, Чыгіру і Ганчарыку. Домаш набраў большасць галасоў. Але астатнія кандыдаты не "здаліся". Самы час быў заклямiць іх ганьбай, як раскольнікаў, і прызнаць адшчапенцамі (як калісьці Статкевіча), але замест гэтага пачаліся "кансультацыі", "перамовы", з імі сталі цацкацца бы з капрызнымі дзецьмі. Але кансультацыі ні да чога не прывялі, і Чыгір з Ганчарыкам вырашылі балатавацца. Далей – болей. Балатавацца вырашылі і іншыя прадстаўнікі КРДС – Казлоўскі і Калякін. Маўляў, мы яшчэ паглядзім, хто з нас лепшы і хто мае права быць адзіным. Потым, здарыўся нібыта цуд – усе пяць кандыдатаў утварылі "пяцёрку" і дамовіліся, што будуць працаваць камандай і здымуць свае кандыдатуры на карысць найлепшага, што высьветліцца пасля збору подпісаў. Грамадскасць узрадавалася: ну вось цяпер, нарэшце вызначыцца адзіны кандыдат. (Але ж для гэтага можна было проста не вылучацца раней, бо адзіны кандыдат быў ужо тады!) У выніку адбылося наступнае: гэтыя пяць кандыдатаў, (а не аб'яднанне масавых дэмакратычных партыяў і арганізацыяў, за якімі стаялі рэальныя людзі, як КРДС) у вачах грамадскасці стварылі ілюзію розных апазіцыйных сілаў, якія аб'ядналіся, а права вызначаць адзінага кандыдата "атрымалі" толькі гэтыя пяць чалавек. Далей для большай пераканаўчасьці гэта было аформлена ў рух "За новую Беларусь", на чале якога стаў Лявонаў, які нядаўна выйшаў з турмы. (Асоба сапраўды сімвалічная – ён жа вытрымаў лукашэнкаўскае зьняволенне. Супраць чалавека, які шмат пацярпеў, язык не паварочваецца сказаць нешта дрэннае. Зрэшты, апазіцыя ужо даўно лічыць усіх (без разбору) ахвяр Лукашэнкі пакутнікамі за дэмакратыю. Спачатку ім стаў Чыгір, якога калісьці апазыцыя сама абвінавачвала (антыкарупцыйны даклад Антончыка 1994 г.), потым Віннікава, потым Пласкавіцкі, а цяпер ужо нават і Ціцянкоў.) Дзіўна: калі аднойчы Лябедзька прапанаваў ідэю калегіі з пяці выбаршчыкаў, якія б выбрала адзінага кандыдата, усе палічылі гэта поўнай лухтой. Калі ж такая калегія ўзнікла у выглядзе "пяцёркі", усе палічылі гэта нармальным.

Увесь гэты час ішло змаганьне супраць таго, каб адзінага дэмакратычнага кандыдата вылучылі тыя, хто меў на гэта поўнае права, г. зн. КРДС, якая была прадстаўніцай усіх тых масаў актывістаў з партыяў і арганізацыяў, якія працавалі на дэмакратыю. І калі астатняя вялікая колькасьць людзей не належала да актывістаў, а толькі спачувала, то значыць прытрымвалася іхніх рашэньняў – паводле іерархіі. Увесь гэты час ішоў уплыў на грамадскую думку (на гэтых самых пасіўных "спачувальнікаў"), каб паказаць КРДС некампетэнтнай, і паказаць кампэтэнтнасць іншых групаў, за якімі часта не стаяла ніякай грамадзкай падтрымкі.

(*Заканчэнне на 7-й старонцы.*)

# Палітычны лахатрон па-маскоўску

*Як ажыццяўляецца трэці – маскоўскі сцэнар беларускіх выбараў.*

*(Працяг. Пачатак на ст. 4)*

Спачатку быў камітэт "Выбар-2001" на базе "Народнай волі", у які уваходзілі вядомыя людзі і які ставіў за мэту "вызначыць беларускага Каштуніцу". Усё рабілася кялейна, асобна ад КРДС і з мэтай назваць народу "адзінага" асобна ад яе. Потым гэта кудысці знікла і з'явілася ўжо "пяцёрка" і рух "За новую Беларусь", таксама утворанае з вядомых людзей і асобна ад КРДС. Дзіўна наступнае: кажучы КРДС пра яе некампетэнтнасць называць кандыдата, усе гэтыя аб'яднанні кажуць пра яе абавязак падтрымаць рэсурсамі таго, каго яны самі выберуць. Падобна, КРДС выкарыстоўваюць як дурняў. Дзіўна: калі такія групоўкі маюць права прызначаць права кандыдата, то няхай самі б на яго і працавалі. КРДС урэшце рэшт ім не падпарадкаваная, каб яны ёй загадвалі. Наадварот, прадстаўнікі гэтых груповак самі чальцы КРДС і павінны падпарадкоўвацца ейным супольным рашэнням. Гэтыя маргінальныя групоўкі дураць КРДС: хочуць пераканаць КРДС, што іхнія вузкія інтарэсы – уласныя думкі самой КРДС. Не ў апошнюю чаргу дзякуючы уплыву праз СМІ. (Мэтанакіраванае прамыванне мазгоў дэмакратычнай грамадскасці праз адну уплывовую "незалежную" газету заўважанае не толькі мной і ня сёння. У апазіцыйных колах вядома, што шмат матэрыялаў у гэтай газеце папросту праплочваюцца. Дый нават калі не ведаць гэта, то зарганізаванасць і плянавасць негатыўных ацэнак у бок адных прадстаўнікоў апазіцыі і пазітыўных у бок другіх кідаецца ў вочы любому назіральнаму чалавеку, і робіцца зразумела, што ёсць кланы, якія проста маніпулююць грамадскай думкай, змагаюцца за яе з дапамогай грошай. Адным словам, арганізуюць інфармацыйныя кампаніі, пі-ар. Згаданы рэдактар, напэўна, лічыць тых, хто яму плаціць, мецэнатамі, але мецэнат – гэта не той, хто ставіць умовы. Гэты рэдактар проста прадае сваю газету і ўласнае сумленне.) Думкі гэтых груповак з яе дапамогай навязваюцца дэм. грамадскасьці, у выніку КРДС вельмі цяжка "ісці супраць волі грамадскасці", і яна забывае, што дэм. грамадскасць дэлегавала свае правы якраз ёй. Альбо чальцы КРДС, начытаўшыся купленай "апазіцыйнай" газеты пачынаюць лічыць матэрыялы ў іх "настроямі народу" і падсвядома прымаць гэтыя настроі да сябе як да "часткі народу".

Домаш усё ж увайшоў у пяцёрку. Навошта ён гэта зрабіў? Напэўна, хацеў паказаць, што ён усё роўна будзе мацнейшы. Так і адбылося. Ён набраў найбольш галасоў з усіх. Па лёгіцы яго павінны былі прызначыць "адзіным". Але ізноў у змаганьні супраць Домаша пайшлі супраць усіх правілаў – замест яго прызначылі Ганчарыка. І гэта яшчэ прытым, што на той момант нават "пяцёрка" як такая ужо не існавала, бо трое з яе (Калякін, Чыгір, Казлоўскі) сышлі з дыстанцыі, не набраўшы патрэбных для рэгістрацыі 100 000 галасоў. Зрэшты, тое, што Ганчарыка выбяруць "адзіным" стала ўжо зразумела, калі ён напярэдадні гэтага агучыў дакументы пра забойства Завадскага. Гэта была прэлюдыя да будучага абвяшчэння і "абгрунтаванне" для яго. Для Домаша гэта стала сюрпрызам, хаця на што ён разлічваў? Усе астатнія чатыры кандыдаты былі арыентаваныя на тыя ці іншыя маскоўскія структуры, чым неаднаразова хваліліся, усе яны і ў выступах, і ў кулуарных размовах наракалі на тое, што "Домаш – гэта БНФавец", нібы ня ведаючы, што ён не сябра БНФ, і што БНФ, які яго проста падтрымвае, ім не павінен быць ворагам (як іхні партнёр па КРДС). За гэтымі чатырма не стаяла падтрымкі беларускага грамадства (як за Домашам у выглядзе "Рэгіянальнай Беларусі"), за імі стаялі толькі маскоўскія "сувязі" і "структуры". Відавочна, што яны знайшлі паразуменьне ў тым, што "нельга дапусціць БНФаўца", што у гэтым была і зацікаўленасць Масквы. "Чацвёрка" вырашыла згуляць разам супраць аднаго. Чатыры болей супраць аднаго, і яны паклікалі Домаша згуляць з імі, загадзя ведаючы, што разам прагаласуюць супраць яго. Домаш хацеў па-сумленнаму, а ў выніку стаў ахвярай махляроў. У іх гэта завецца "лахатрон". Пры гэтым Чыгір, Казлоўскі і Калякін ня згубяць шмат – ім дадуць тыя ці іншыя пасады. (Нічога ня скажаш – новыя людзі ва ўладзе!) Зрэшты, на месцы Ганчарыка мог быць любы іншы з гэтай "чацвёркі", а пасады б атрымалі астатнія з яе – гэта была б толькі перамена месцаў.

Гэтак Масква рабіла, каб беларуская апазіцыя перастала падтрымваць свайго сапраўднага прадстаўніка і сваімі рукамі пачала прасоўваць ва ўладу пабочнага чалавека, "засланага казачка". Вось чаму КРДС амаль цэлы год не давалі зрабіць натуральны выбар на карысьць Домаша, трымаючы народ у напружанні пачуць нарэшце імя "адзінага" – Масква проста дамагалася, пакуль апазіцыя пачне падтрымваць патрэбнага ёй чалавека. Аб'яднанай апазіцыі ў выглядзе КРДС імкнуцца унушыць, што вырашаць ад імя апазіцыі мае права зусім не яна - поўнае аб'яднаньне усіх сілаў! – а толькі некаторыя яе прадстаўнікі, аб'яднаныя у асобнай групоўцы; КРДС хочуць унушыць, што яна – толькі выканаўчы ворган пры гэтай групоўцы, прасцей кажучы, працоўная сіла. І каб падобнае унушэнне было больш эфектыўным, метадычна апрацоўваюць свядомасць дэмакратычнай грамадзкасьці праз апзіцыйную (не скажу "незалежную") газету, якую яна чытае, дзеля таго каб атрыманая грамадская думка "ціснула" на КРДС. Гэтак апазіцыю прымусілі падтрымваць таго, хто ніколі не быў апазіцыянэрам, хто ўвесь час быў пасіўным функцыянерам Лукашэнкі. Супярэчнасці яго з Лукашэнкам былі проста цацачныя, яскравым правадыром для чальцоў прафсаюзу ён не быў ніколі, ніколі не быў ён і грамадскім дзеячам. Спачатку Ганчарыка прынялі ў кампанію, каб дасягнуць кампрамісу і суцішыць ягоныя амбіцыі, а цяпер ён падпарадкаваў кампанію сабе. Ганчарык аказаўся траянскім канём.

Супастаўляючы тое, як па маскоўскім сцэнары перашкаджалі фармаванню сапраўднага беларускага апазіцыйнага лідара, і тое, што маскоўскія спецслужбы рукамі беларускіх ажыццяўлялі гучныя палітычныя зьнікненні і ьмерці, робіцца зразумелай і смерць (забойства?) Карпенкі. Калі б ён зараз быў жывы, то не ўзьнікла б і пытання "Каму быць адзіным кандыдатам?", бо Карпенка быў дастаткова папулярызаваны задоўга да 1999 г., калі ён загінуў (бо яго рыхтавалі да выбараў 1999 г. задоўга да 1999 г. – не тое, што зараз). Відавочна, Маскве быў нявыгадны наяўны кандыдат пад выбары 2001. Што ж, паклапаціліся загадзя... (А заадно і Лукашэнку падгадзілі.)

Могуць запярэчыць: маўляў, Масква не ўмешваецца ў нашыя справы, дзе я бачу гэтую "руку Масквы", няма ніякіх сведчанняў. Сведчанні – гэта тое, як у Беларусі курсуюць ваяжоры з розных расейскіх спецслцжбаў, як яны праводзяць "кансультацыі" з кандыдатамі, пра што яны неаднаразова хваліліся, у тым ліку і ў прэсе.

***Віталь Станішэўскі.***

**P.S**. Закранаючы тэму маскоўскага ўмяшання ў беларускія падзеі выкрышталізоўваецца яшчэ адна праблема, якую варта разгледзець асобна. Гэта праблема стаўлення да беларускіх палітычных партыяў, і асабліва да БНФ. Ад вырашэння гэтага пытання залежыць, ці будуць на Беларусі уласныя ўлады, альбо гэта заўжды будуць падсадныя качкі.

Добра вядома, што беларускі электарат галасуе больш за асобы, чым за партыі. Сапраўды, большасць людзей лічыць сябе апалітычнай: маўляў, навошта мне гэтая палітыка і гэтыя ўсе партыі. Партыі у іх асацыююцца з палітыкай, і яны не прымаюць партыяў. І калі з'яўляецца нейкі незалежны кандыдат, які кажа, што ён не ад нейкай партыі, а просты чалавек, то электарату заўжды прыемней гэткі свой "просты чалавек". Звычайны штамп: "Ён не ад партыяў – ён ад народу". Апазіцыя заўжды ведала гэтую асаблівасць нашага электарату, але замест каб змагацца зь ёй, ішла ў яе на павадку, падгульвала ёй. Пазіцыя: "Я не ад партыяў – я ад народу" - лукаўства. Адзін чалавек без падтрымкі вялікай колькасці людзей ня можа займацца вялікай палітыкай. Калі чалавек дзеля ажыцьцяўлення ідэяў не прыцягнуў да сябе вялікай колькасьці людзей, ці ня значыць гэта, што ён проста палітычнае нішто, і як ён збіраецца прыцягнуць яшчэ большую колькасць людзей – выбаршчыкаў? Абыякавыя да палітыкі людзі ня могуць быць больш актыўнымі за тых, хто ёю цікавяцца, і перамагаць іх, бо яны не аб'яднаныя. І палітычныя партыі не ёсць адарванымі ад "простых людзей" – гэта аб'яднанні актыўных людзей, якія вылучыліся з "простых людзей", каб змагацца за тыя ці іншыя супольныя інтарэсы. Калі зьяўляецца кандыдат, падтрыманы партыямі, то ён адпаведна – ад пэўнай часткі народа, якая дэлегавала свае правы сваім актыўных прадстаўнікам, якія вылучылі гэтага кандыдата. Калі ж кандыдат – "сам па сабе", то гэта значыць, што ён ніадкуль і ні ад кога. Падобныя кандыдаты змогуць заваяваць давер толькі праз актыўную іх рэкламу, у якую укладаюцца вялікія рэсурсы.

Падобным чынам дзейнічаў і Лукашэнка. Ён казаў, што ён не ад БНФ і не ад камуністаў, што ён просты чалавек з народу. Ягоная папулярнасць была дасягнутая за месяц да выбараў – так хутка, каб электарат прагаласаваў па першым ураженні, бо праз нейкі час эйфарыя магла б спасці, а рэкламных трукаў не хапіла б надоўга. (Галоўнае – каб ён быў выбраны, далей падтрыманьне папулярнасці – справа тэхнікі.) На "раскрутку" былі пушчаныя вялікія грашовыя і людскія рэсурсы, якіх спецслужбам не бракавала ніколі.

Апазіцыя можа паўтарыць гэтую памылку, патураючы падобным памылковым настроям электарату, бо падобным чынам да ўлады заўжды будзе прыходзіць не прадстаўнік народу, а марыянэтка, у якой няма адказнасці перад канкрэтнай партыяй, канкрэтнай арганізацыяй, канкрэтнай групай насельніцтва. Падобныя настроі павінны быць пераадоленыя, інакш народам заўжды будуць маніпуляваць звонку. Спецслужбам трэба, каб народ быў апалітычным і не прымаў партыяў, бо ў іх людзі перастаюць быць разрозненымі і эгаістычнымі, яны аб'ядноўваюцца, урэшце рэшт у партыях людзі ведаюць, чаго яны хочуць, у партыях яны робяцца палітычна актыўнымі і не даюць сабой панукаць; бо разрозьненымі, эгаістычнымі, пасыўнымі людзьмі, якія ня ведаюць сваіх канкрэтных інтарэсаў лягчэй маніпуляваць. Людзям трэба тлумачыць, што партыі – наўпраставы спосаб абараняць іх інтарэсы, інакш ім будуць заўжды падсоўваць новых царкоў.

Асаблівую ўвагу трэба надаць стаўленню да БНФ. Як штосці само сабой зразумелае разглядаецца факт, што "народ дрэнна ставіцца да БНФ". І гэтым настроям таксама патураюць, замест таго каб іх перамагаць. Фразай пра "небясьпеку нацыяналістаў, якія рвуцца да ўлады" пужалі камуністы, пужаў Кебіч, каб застацца ва ўладзе, бо БНФ быў галоўным ворагам рэжыму і працаваў супраць яго найболей. Зусім не ўяўная нацыянальная талеранцыя кіравала Кебічам. Кебіча змяніў Лукашэнка, але замест таго, каб аддзячыць БНФ, за тое што той змагаўся з ненавісным "жульлём" і ствараў яму пратэстны электарат, ён таксама пачаў лаяць БНФ як нацыяналістаў. Чаму? Слушна! – бо БНФ галоўны вораг ягонага рэжыму, бо Лукашэнка хоча застацца ва ўладзе. Складаецца цікавая закачамернасць: усе рэжымы заўжды паказваюць БНФ страшэнным злом за тое, што БНФ змагаецца супраць гэтых злачынных рэжымаў. Але кожны пераможца злачыннага рэжыму (але не БНФавец), паўтарае ўсё што казаў (каб абараніць сваю уладу) рэжым, супраць якога ён змагаўся. Колькі ж гэта будзе працягвацца? Час ужо спыніць гэтае зачараванае кола. Трэба давесці, што БНФ заўжды змагаўся супраць злачынных рэжымаў, і страшылкі пра БНФ выдумлялі менавіта яны. Трэба перастаць саромяцца БНФаўскасці. І не варта лічыць, што іміджа БНФ адштурхне выбаршчыкаў – нават маскоўскія монстры аналітыкі, разгляданыя вышэй, разглядалі як рэальны варыянт з прыходам незалежніцкага кандыдата да ўлады, чаго ж сумняёмся мы? Болей таго, НІСЭДП праводзіла апытанне: "Як паўплывае на вашае рашэньне галасаваць за кандыдата факт падтрымкі яго той ці іншай партыі?" У выніку найвялікшы станоўчы працэнт быў каля 4%, найвялікшы адмоўны каля 10%, але адказ "ніяк" адносна ўсіх партыяў быў ня меншым за 60%. Такім чынам сцверджанне, быццам патрымка БНФам Домаша, пашкодзіць яму, не знаходзіць пацвярджэння.

Сцвярджэнне, быццам падтрымка БНФ акажацца шкоднай, не мае сэнсу ва ўмовах аб'яднанай апазіцыі. БНФ — самая вялікая і структураваная апазыцыйная арганізацыя, якая нясе асноўны цяжар працы апазіцыйных акцыяў, і ад БНФ залежыць ледзь не ўся апазыційная барацьба. Па сутнасьці, уся апазыцыя трымаецца на падтрымцы БНФ. Абсурдна: няўжо апазіцыі трэба, каб яе і ейных кандыдатнаў не падтрымваў БНФ (бо у такім разе яны не будуць асацыявацца з "гэтай непапулярнай партыяй")? Трэба ўцяміць: да БНФ можна прычапіць усю апазіцыю, бо роля БНФ у апазіцыі заўжды будзе вырашальнай, а ад падтрымкі БНФ яна не адмовіцца ніколі. Таму БНФ можа і павінен перастаць хавацца. Культываваньне ідэі "не трэба свяціць БНФаўскасцю" прывядзе да таго, што БНФ заўжды будзе працаваць на іншых і заўжды заставацца ў пралёце. Поспех БНФ залежыць не столькі ад яго іміджу, колькі ад велічыні зробленай працы, і ў гэтым сэнсе у БНФ як наймацнейшая апазіцыйная структура мае вялікія шанцы. (Прыклад гэтага — выбары у Вярхоўны Савет 13-га скліканьня: калі рэжым пачаў кампанію паклёпу супраць БНФ і заставалася мала шанцаў, БНФ вырашыў падтрымаць кандыдатаў ад АГП, супраць якіх не вялося прапаганды.

Непрыемна прызнаваць, але ў асяроддзі апазіцыі ёсьць такія ("проста дэмакраты"), хто настроі пра "адыёзнасць БНФ" не проста прымае пад увагу, але падзяляе (маўляў, "этім бы фанатікам только мова") . Шмат хто з іх шчыра не жадае прыходу БНФ да ўлады. І за "сяброўскімі парадамі" наконт іміджу БНФ часта хаваецца якраз гэтага. У тым ліку і парады падтрымваць Ганчарыка з "іміджам цэнтрыста", а ня Домаша зь "іміджам БНФ" — з той жа оперы. Гэтыя людзі і не імкнуцца абараніць быццам бы партнёраў па апазыцыі ад нападак рэжыму , што з іхняга боку непрыгожа. Яны ніколі ня супраць, каб чальцы БНФ выконвалі іхнія праекты, але ніколі не бываюць ім удзячы за гэта. Бадай, яны лічаць, што БНФ ледзь не іхняя працоўная сіла, а яны — мазгавы цэнтар. Так было і падчас альтэрнатыўных выбараў 1999 г., калі БНФ выкарыстоўвалі як працоўную сілу, так адбываецца і на шмат якіх іншых акцыях. Настроі кшталту "не дэманструй дачыненне да БНФ" культывуюцца дзеля таго, каб незалежніцкія сілы ніколі не прыйшлі да ўлады. Бо гэтак БНФ заўжды будзе працаваць на таго, хто будзе прадстаўляць іншыя інтарэсы. І якая гарантыя, што тыя, каго БНФ прывёў да ўлады, не стане ў сваю чаргу паўтараць увесь антыБНФаўскі бруд папярэдняга рэжыму?! Досвед мы ўжо маем. Хочуць чальцы БНФ папрацаваць на такую будучыню ці не — вырашаць ім. (Зрэшты, як і ў 1999 г., ім у якасці "стымулу" могуць прапаноўваць грошы. Але няўжо грошы стануць для іх важнейшымі.





А. Талерчык

# ЯК МІХАІЛ МУРАЎЁЎ ВЕШАЎ МІХАЛА ВАЛОВІЧА

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

З'явілася патрэба ў наладжванні сувязяў з кіраўнікамі паўстанняў у сумежных акругах і асабліва з Цэнтральным кіраўніцтвам у Вільні. Даручылі гэтай справай заняцца Яцкевічу, якому былі вядомыя таямнічыя паролі, на якія адкрываліся падпольныя сябры. Але выканаць даручэнне ён не здолеў. Бо праз два дні, калі Яцкевіч праязджаў у Вільню праз Воранава, там яго западозрыў карчмар Хаім Янкелевіч і выдаў расійскім уладам, пра што, безумоўна, Валовіч не ведаў. Не дачакаўшыся звестак ад Яцкевіча і сігналу з Цэнтра аб пачатку паўстання, Валовіч пачаў дзейнічаць самастойна. Фальварак Яловікі, дзе абаснаваўся ў смалакурні Валовіч, ляжаў на паштовым тракце Брэст-Слонім-Вільня, па якім у спецыяльных брычках перыядычна перавозілі казённыя грошы. Вырашылі напасці на такую брычку, забраць грошы, купіць на іх патрэбную зброю і добра ўзброеным атрадам здзейсніць напад на слонімскую турму і вызваліць зняволеных былых паўстанцаў, якія павінны былі значна папоўніць іх аддзел. А тады, супольна з памежнымі аддзеламі, пачаць шырокае сялянскае паўстанне супраць расійскіх уладаў, за адмену прыгоннага права і за надзел сялянаў уласнаю зямлёю.

Дзве першыя засады на пошту былі безвыніковымі. Трэцяя засада закончылася драматычна. 26 красавіка яны падпільнавалі паштовую брычку за Шундрамі. Двое паўстанцаў заступілі дарогу, а чацвёра другіх хацелі залезці ў брычку. Але фурман бізуном моцна сцебануў коней, тыя падбілі заступіўшых, пераехалі па іх брычкаю і, такім чынам, уцяклі.

Рапарт мясцовых уладаў аб нападзе на паштовую брычку быў накіраваны Віленскаму губернатару Далгарукаву. Той 28 красавіка загадаў падначаленаму Гродзенскаму губернатару М. Мураўёву вылавіць нападнікаў, дзеля чаго дазволіў выкарыстаць салдатаў, расквартэраваных у Слоніме. Праведзеныя мясцовымі ўладамі дзве аблавы вакол гасцінца ад Слоніма да Задвор'я вынікаў не далі. Тады губернатар М. Мураўёў для арганізацыі пошукаў накіраваў у Слонім урадніка па асобых даручэннях маёра Галянкоўскага. Усім жыхарам навакольных вёсак было абвешчана, а ўладальнікам маёнткаў даведзена пад роспіс: калі хто всдае пра нападаўшых на пошту і не паведаміць пра гэта мясцовым уладам, ён будзе цяжка пакараны, а маёмасць канфіскавана. Наладжваліся новыя аблавы, але Валовіч, як спрактыкаваны вайсковец, удала манеўруючы, выводзіў аддзел ад праследу. Калі стала немагчыма хавацца на Слонімшчыне, ён перабраўся ў навагрудскія лясы.

Не мог ведаць капітан літоўскай кавалерыі Міхал Валовіч, што яго захопам займаецца асабіста Гарадзенскі грамадзянскі губернатар на правах ваеннага губернатара па гораду Гарадні генерал-маёр і кавалер Міхаіл Мураўёў. Так пачалося супрацьборства расейскага генерал-маёра Міхаіла Мураўёва з капітанам літоўскіх войскаў Міхалам Валовічам.

Дык хто ж такі быў гэты Міхаіл Мураўёў? За Валовіча ён быў старэйшы на 10 гадоў. Скончыў Маскоўскі універсітэт. Удзельнік вайны з Напалеонам. Актыўны ўдзельнік першых тайных дзекабрысцкіх арганізацый, аддзін з заснавальнікаў і аўтараў статута "Саюза благоденствия". Пасля паразы паўстання дзекабрыстаў у 1825 годзе быў арыштаваны і амаль паўгода прасядзеў у Петрапаўлаўскай фартэцы. Расказаў ахоўцы ўсё, што яе цікавіла і, такім чынам, выбраўся з турмы, у той час як брат Аляксандр быў сасланы ў Сібір. Пасля вызвалення з астрогу, дзякуючы пратэкцыі барона Дзібіча, Міхаіл Мураўёў укладваўся на дзяржаўную службу. У 1827 годзе прызначаны Віцебскім віцэ-губернатарам, у 1828 – Магілёўскім грамадзянскім губернатарам, а з 1831 па 1835 гады быў Гарадзенскім грамадзянскім губернатарам. Мураўёў быў вельмі энергічным дзеячом і здольным адміністратарам, але інтэлектуальна і духоўна ён быў вельмі абмежаваным чалавекам. "Наколькі высока ён стаяў па розуме і адукацыі, - пісаў аб ім яго начальнік князь П. В. Далгарукаў, - настолькі нізка стаяў па сваіх маральных якасцях... Яго характар складваўся з дзвюх стыхій, двух памкненняў, скваппых і ненасытных: уладалюбства і прагнасці да грошай. Пачуццё асабістай годнасці, гонар, сумленне для яго не існуюць; усё гэта для яго толькі словы, пустыя гукі; улада і грошы - вось яго рэлігія". Стараючыся перад царом замаліць свае грахі юнацкага вальнадумства, ён проста лез са скуры, каб даказаць сваю "верноподданность" цару. Каб дамагчыся палітычнай рэабілітацыі, ён становіцца заўзятым рэакцыянерам, самай змрочнай і агіднай фігурай таго часу. "Змоўшчык, які выйшаў з турмы з павышэннем у чыне, генерал, які не бываў у баях, рабалепны нахабнік, выкрыты казнакрад, кат, інквізітар" – так характэрызаваў яго А. Герцэн. У гісторыі Беларусі перыяд яго кіравання абазначаны як "мураўёўшчына". "Мураўёўшчына" – гэта спараджэнне імперскай ідэалогіі расійскага самаўладства, мэтай якога быў ваенны захоп чужых земляў пад сцягам абароны інтарэсаў імперыі, рускай нацыі і праваслаўя. Стратэгічнай мэтай гэтай палітыкі была ліквідацыя асаблівасцяў нацыянальнага жыцця захопленых народаў, іх прымусовая русіфікацыя. Мураўёў і яго памагатыя імкнуліся ператварыць Беларусь ва ўзорна-паказальны куток расійскай імперыі з рускім складам адміністрацыі, першынством праваслаўя і рускай школай. Усё, што перашкаджала ці праціўлілася яго задумкам, бязлітасна знішчалася.

Калі шматдзённыя аблавы ў слонімскіх лясах, у якіх, паводле паведамлення іх арганізатара маёра Галянкоўскага, удзельнічала да 1500 сялянаў і вайскоўцаў, ніякіх вынікаў не далі, Мураўёў зразумеў, што ён мае справу з вельмі хітрым і прадбачлівым праціўнікам, здольным манеўраваць ці абводзіць сваіх праследвальнікаў. Мураўёў загадаў пачаць аблавы па ўсіх лясах, бліжэйшых да Слонімскага павету, бо дадаткам не ведаў ні колькасці паўстанцаў, ні таго, хто імі кіруе. Мураўёў прыняў рашэнне арганізаваць масавыя аблавы і вылавіць паўстанцаў, пакуль яны не пашырылі ўплыў на мясцовых сялянаў прывабнай ідэяй – аб'явіць ім вольнасць.

А гэтым часам у Міхала Валовіча з'явілася рэальная магчымасць папоўніць свой атрад. 10 траўня за тры вярсты ад паштовай станцыі Дзедзічы Слонімскага павету (у 3 вярстах ад в. Ніз) 28 палонных, былых паўстанцаў, якіх пераганялі са слонімскай турмы ў другую, раззброілі канвойных салдатаў і ўцяклі ў лес. Каб не дапусціць злучэння ўцекачоў з аддзелам Валовіча, у аблавы былі кінутыя вялікія сілы. Толькі па Гарадзенскай губерні ў вышуках прынялі ўдзел звыш 10 тысяч салдатаў, паліцыянтаў і сялянаў, у тым ліку ў Слонімскім павеце – 1500 чалавек, у Навагрудскім – 3000, у Лідскім – 2000, у Ваўкавыскім – 2500 і Гарадзенскім – 1500 чалавек. Апрача таго, аблавы праводзіліся ў Менскай губерні і на Беласточчыне.

Валовіч кідаўся з аднаго месца ў другое, а аблаўнае кола сціскалася. 17 траўня выкрылі Лявона Панасюка, які быў моцна хворы, ісці не мог і схаваўся ў капе сена. Вось як пра ход далейшых пошукаў дакладваў Мураўёву кіраўнік аблаваў маёр Галянкоўскі: *"... По данным Панасюка усилили большую часть облавы из собранных вновь крестьян, распространили наши действия к обыску по всем подозреваемым пунктам Слонимского уезда, обратив внимание на самые густые леса и болотные места. И продолжали облаву беспрерывно 5 или 6 дней, не упуская из виду и наблюдения через секретных агентов, разосланых нами во все дома, связующие родство и дружбу Волловичей. По продолжению сих обысков захвачен другой из шайки Волловича, с весьма противоположной стороны от обысков наших к границе Новогрудского уезда, с чего взяли, что Воллович взял направление к селению Люшняны на другой пунт Новогрудского уезда. Обошли все леса усилием мужиков до 3 тысяч человек, заняли леса Новогрудского уезда и прилегающие к Слонимсому. Присем командировал заседателя Вольфа от Лидского уезда с другой облавой до 2 тысяч человек крестьян и приказал ему обыскать все подозрительные места и леса и в продолжении того захватил порознь в разных местах 3 человек из шайки Волловича, из показания коих (как впоследствии открыто), что не верно объяснили место укрывательства предателя Волловича, но с нашей стороны приняты меры, чтобы не выпустить его из Слонимского уезда, где последний был захвачен. Воллович часто прятался под мостами, близ строений на которые действительно никто не мог обратить подозрение. Перерезав путь подпитки продовольствием, Воллович обратно направил свой путь с оставшимися 3 человеками к лесам Шундровским вблизи Поречья"*

А вось рапарт маёра Галянкоўскага Мураўёву аб злаўленні Валовіча. *"Вашему Превосходительству почтеннейше донести честь имею, что преследуемый нами Государственный преступник Михал Воллович, из нас Земским Исправником Курбацким Сего Числа пополудни во 2-м часу пойман в Лесах Слонимских, и взят с имевшимся в руках двухствольным ружьём, таковым же пистолетом, заряженными пулями, и кинжалом; при сем случае преступник Воллович кинжалом ранил двух человек, и в то же время сперва из пистолета, а потом кинжалом хотел лишить себя жизни, но действиями исправника к тому не допущен. С ним Волловичем взяты также три крестьянина с ружьями заряженными пулями и последний товарищ его крестьянин Елизар, отыскан в воде утопившимся, итак вся шайка Волловича совершенно истреблена... . При допрашивании нами об открытии Соучастников Его в предательстве, Воллович совершенно не сознается и никого не открывает".*

На наступны дзень маёр Галянкоўскі прывёз Валовіча ў Гародню. Першы допыт у Гародні рабілі ў прысутнасці самога Мураўёва, пракурора Санкоўскага і падпалкоўніка корпусу жандараў Папова.

Так сустрэліся кат і яго ахвяра. Яны пільна прыглядаліся адзін да аднаго. Мураўёў, па рапартах Галянкоўскага, ужо ведаў, што Валовічу ўсяго 26 гадоў, росту сярэдняга, валасы цёмнарусыя хвалістыя, вочы цёмнаблакітныя, голас ціхі. Хоць ён выглядаў змучаным, на твары былі сляды пабояў, аднак трымаўся ён прыстойна і ўпэўнена.

Вонкавы выгляд Мураўёва быў непрыцягальны. Ён уставаў, хадзіў па пакоі павольнай загрэбістай паходкай. Нічога прыемна ўражлівага не было ў яго калмыцкім твары з кірпатым носам і тоўстымі губамі. Кідаліся ў вочы вялікія скулы на яго твары з вельмі абвіслымі шчакамі каля вушэй, якія звісалі над каўняром яго генеральскага мундзіра. Але з-пад навіслых густых броваў уважліва глядзелі яго бегаючыя вочы, ад якіх, здавалася, нічога не можа схавацца. На мундзіры зіхацеў ордэн Святой Ганны, які ён нядаўна атрымаў за ідушэнне паўстання на Віцебшчыне.

Гэтыя два чалавекі ў 1831 годзе былі ўзнагароджаны сваімі ўрадамі за ўдзел у лістападаўскім паўстанні. Валовіч атрымаў рыцарскія крыжы за ратаванне Айчыны ад расійскіх захопнікаў і за жаданне вызвалення сялянаў ад паншчыны. Мураўёў атрымаў узнагароду за задушэнне гэтага паўстання, за "умиротворение и обрусение" Беларусі і за лютую прыхільнасць да прыгоннага права. Тады Мураўёў нават не мог падумаць, што мара Валовіча аб адмене паншчыны і надзеле сялянаў зямлёю праз пару дзесяцігоддзяў прыйдзе ў галаву новаму цару Аляксандру II. І ён неафіцыйна звернецца да літоўскай шляхты з прапановай выступіць ініцыятарамі скасавання прыгонніцтва ў Расіі. Бо цар лічыў, што літоўская шляхта была найбольш падрыхтавана да такога лёсавызначальнага для Расіі мерапрыемства. Прапанова была прынята, і ў 1861 годзе, у бытнасць Мураўёва міністрам дзяржаўных маёмасцяў (сельскай гаспадаркі), прыгоннае права ўсё ж было скасавана. Расія рушыла ў новую фармацыю-капіталізм.

Мураўёў чакаў ад допыту Валовіча сенсацыйных звестак, якія пралілі б святло на ўсю арганізацыю партызанскага руху на Літве. Аднак яго напаткала расчараванне. Ён не на таго натрапіў. Дарэмна скончыліся намаганні змусіць Валовіча назваць прозвішчы паплечнікаў і памагатых. Колькі раз, прыціснуты доказамі аб яго кантактах з патрыётамі, ён сцвярджаў, што пра гэта гаварыць не будзе, а таму раіў, каб яго не спрабавалі вымушаць гэта рабіць. Члены вайсковага суда бачылі, што Валовіч **"... знарок не прызнае віны, каб схаваць праўду, пазбегнуць заслужанай кары, схаваць сваіх паплечнікаў ад суровай паводле адпаведных мер кары, і такім чынам дапамагчы другім, падобным да яго, здзейсніць свае гнюсныя намеры".** Не спраўдзіліся яго асцярогі, якімі ён падзяліўся з сябрам свайго дзяцінства Ігнатам Дамейкам, перад адыходам з Францыі на Радзіму: "...Калі мяне паймаюць, калі будуць катаваць, з жахам думаю, што вораг зможа пры маёй слабасці ці пры балючым выцягванні з мяне жылаў-выцягнуць і якое-небудзь неасцярожнае слова, альбо паклёп на сяброў".

Гэтага не адбылося. Мяркуючы па запісаных паказаннях яго допытаў, вырысоўваецца постаць Валовіча, якая кранае шляхетнасць і нязвыклай цвёрдасцю духа.

Большасць сялянаў прызналіся, што пайшлі добраахвотна ў Валовічаў аддзел. "Апрацаваныя" адпаведным чынам, ці паверыўшы абяцанкам следчых, што за чыстасардэчныя паказанні будуць памілаваныя, яны расказалі амаль усё, што ведалі, абцяжарваючы сваё і Валовіча становішча.

Звесткі аб тым, што Валовіча злавілі і аб першых выніках дазнання, Мураўёў без затрымкі парадаваў у канцылярыю Віленскага губернатара князя Далгарукава, а той – цару. Цар быў вельмі задаволены рашучымі дзеяннямі Мураўёва, аб чым вядома з ліста ад 23 траўня Віленскага губернатара Далгарукава да Мураўёва:

*(Працяг у наст. нумары.)*

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў
220010, г. Мінск, вул. Савецкая, 11
Дом Урада
тэл/факс: 227-19-03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by



Центральная комиссия Республики Беларусь по выборам и проведению республиканских референдумов
220010, г. Минск, ул. Советская, 11
Дом Правительства
тел/факс: 227-19-03
E-mail: centrizb@pmrb.gov.by

452/01-7 . 09.08.2001

452/01-7 ад 09.08.2001

Старшыні грамадскага аб'яднання
Таварыства беларускай мовы імя
Францішка Скарыны
Спадару Трусаву А. А.

**Паважаны Алег Анатолевіч!**

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў паведамляе, што ўсе выбарчыя ўчасткі ў Рэспубліцы беларусь былі сфарміраваны ў адпаведнасці з артыкуламі № 34 і 35 Выбарчага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Рашэнне аб стварэнні камісій з пералікам іх складу, месца знаходжання, нумараў тэлефонаў у сямідзённы тэрмін размяшчаецца ў друку. Інфармацыя пра склад камісіі размяшчаецца ў розных выданнях. У тым ліку і ў многатыражных газетах вялікіх працоўных калектываў.

Што датычыцца парушэння артыкула 50 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, то яго няма. Артыкулам № 17 устаноўлена, што дзяржаўнай мовай з'яўляецца, як беларуская, так і руская мова.

**Старшыня камісіі Л. Ярмошына**

---

"10" жніўня 2001 г. № 427

Спадарыні Л.М. Ярмошынай
Старшыні Цэнтральнай камісіі
Рэспублікі Беларусь па выбарах
# 11, Савецкая вул.
220010 Мінск

**Паважаная Лідзія Міхайлаўна!**

У сваім лісце ад 9.08.2001 г. № 452/01-7 Вы напісалі, што "інфармацыя пра склад камісіі (маецца на ўвазе выбарчая ўчастковая камісія – А.Т.) размяшчаецца ў розных выданнях. У тым ліку і ў многатыражных газетах вялікіх калектываў".

Тут Вы далі не зусім дакладную інфармацыю, бо ў Мінску звесткі пра склад выбарчых камісій Заводскага, Ленінскага, Кастрычніцкага, Партызанскага і Савецкага раёнаў былі змешчаны, на жаль, не "у тым ліку", а толькі ў "шматтыражках", якіх у вольным продажы няма. Такім чынам, большасць жыхароў Мінска не атрымалі адпаведнай інфармацыі, што з'яўляецца грубым парушэннем выбарчага заканадаўства.

У адпаведнасці з артыкуламі 17 і 50 дзеючай канстытуцыі мы прапануем Вам надрукаваць гэтую інфармацыю ў даступным для ўсіх выбаршчыкаў г. мінска выданні па-беларуску, бо большасць жыхароў нашай сталіцы паводле перапісу 1999 года назвалі сваёй роднай мовай менавіта беларускую.

Мы не атрымалі адказу на свой ліпеньскі ліст да Вас (№ 414), у якім настойваем на выраба па-беларуску запрашэнняў насельніцтву на восеньскія прэзідэнцкія выбары.

Спадзяемся атрымаць нарэшце адказ на гэтую прапанову, а таксама ўбачыць Ваш адваротны адрас на афіцыйным канверце ЦВК, напісаны на мове Янкі Купалы і Максіма Багдановіча.

З павагай
Старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" Алег Трусаў.

---

**Старшыні Магілёўскай абласной**
**Камісіі па выбарах Прэзідэнта**
**Рэспублікі Беларусь**

**Паважаны старшыня камісіі!**

Старшыня Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў спадарыня Л. Ярмошына паведаміла нам у лісце № 487/01-7 ад 17 жніўня 2001 года, што заказ паштовак-паведамленняў, якімі выбаршчыкі будуць запрашацца на выбарчыя ўчасткі 9 верасня 2001 г., будзе самастойна рабіцца Вашай камісіяй. Нагадваем Вам, што згодна з дадзенымі 1999 года перапісу насельніцтва Беларусі 73% грамадзянаў лічаць сваёй роднай мовай беларускую. Просім Вас, каб пазбегнуць чарговай дыскрымінацыі карэннага насельніцтва краіны, замовіць паштоўкі-паведамленні на дзяржаўнай беларускай мове – мове тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь. Таксама паведамляем Вам, што ў Гомельскай вобласці выбаршчыкі атрымаюць запрашэнні пайсці на выбарчыя ўчасткі менавіта на беларускай мове. Лічым, што і Ваша камісія падтрымае станоўчую ініцыятыву гомельцаў.

Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.

*Такія звароты ад імя старшыні ТБМ накіраваны ува ўсе абласныя камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Такія ж звароты накіраваны ад ад імя большашці абласных кіраўнікоў ТБМ.*

# Інфармацыя пра конкурс

Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь аб'яўляе другі тур конкурсу для журналістаў "Польшча – прыязная суседка Беларусі". У ім могуць удзельнічаць жырналісты, якія да 30 лістапада 2001 г. вышлюць на адрас Пасольства РП копіі сваіх публікацый, матэрыялаў радыё- і тэлеперадач (з указаннем месца і даты публікацыі), прысвечаных наступным тэмам:

- Сучасная Польшча.
- Польскія рэформы пасля 1989 года.
- Гістарычная супольнасць грамадстваў Беларусі і Польшчы.
- Польскі досвед і стварэнне грамадзянскага грамадства ў Беларусі.
- Перспектывы польска-беларускага супрацоўніцтва.
- Роля мясцовага самакіравання ў развіцці дружалюбных польска-беларускіх адносін.
- Польска-беларукія сувязі на фоне міжнароднай сітуацыі.
- Значэнне членства Польшчы ў НАТА ва ўмацаванні рэгіянальнай бяспекі.

На конкурс будуць прымацца матэрыялы, якія аўтары падрыхтуюць і апублікуюць пасля абвяшчэння конкурсу. Просім іх дасылаць на адрас:

220034, Мінск, вул. Румянцава, 6 ( з паметкай "Конкурс").

Узнагароды: 1 месца – 200 амерыканскіх даляраў; тры прэміі па 150 долараў; пяць прэмій па 100 долараў; 21 заахвочвальная прэмія па 50 долараў.

---

**Працоўному калектыву і вучням**
**Беларуска-славянскай гімназіі № 36 імя Івана Мележа**
**246029, г. Гомель, вул. Бр. Лізюковых, 16**

**Паважаныя педагогі і мілыя дзеці!**

Таварыствы беларускай мовы імя Францішка Скарыны ад шчырага сэрца віншуе вас з пачаткам новага навучальнага году.

Надыходзіць эра высокаадукаванага, інтэлектуальнага чалавека, якому выпадзе гонар будаваць, жыць і працаваць у незалежнай і квітнеючай Беларусі. Мяркуем, што Вы падзяляеце нашы погляды на тое, што толькі грунтоўна аваладаўшы ведамі, можна наладзіць годнае жыццё. Але адных ведаў недастаткова. Трэба любіць сваю краіну, свой народ і родную мову. Наша глыбокае перакананне – толькі шануючы, зберагаючы і памнажаючы набыткі свайго народа, у тым ліку культурнай спадчыны, можна спакойна і смела глядзець у будучыню. Спадзяемся, што ў гэты няпросты для нашай мовы час вы захаваеце ў сценах вашай гімназіі мілагучнасць і пяшчотнасць роднай мовы, яе крынічную празрыстасць і мяккую ўтульнасць. Упэўнены, што з кожным выпускам вашай навучальнай установы наша краіна будзе багацець шчырымі дочкамі і сынамі Беларусі.

Зычым Вам выдатных поспехаў у пачэснай выкладчыцкай працы і навучанні.

Старшыня ГА "ТБМ імя Ф.Скарыны" Алег Трусаў.

---

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, "Наша слова"!*

***Шаноўнае спадарства! Ідзе падпіска на газету "Наша слова" на чацвёрты квартал. Цана вырасла нязначна. Мы і толькі мы забяспечым вас усёй інфармацыяй па праблемах беларускай мовы ў нашай краіне. За 902 рублі вы будзеце штотыднёва мець у сваёй хаце самую беларускую газету на Беларусі.***

***Сакратарыят ТБМ нагадвае кіраўнікам структураў ТБМ, што яшчэ ёсць магчымасць падпісаць газету "Наша слова" на 4-ты квартал для бібліятэк, бальніц, дзіцячых дамоў і садкоў за кошт ТБМ. Для гэтага трэба даслаць запоўненыя квіткі на адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.***

**Ф. СП - 1**

**Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь**

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

**Куды** (паштовы індэкс) (адрас)

**Каму** (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА*** (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | 902 руб. | Колькасць камплектаў | 1 |
|---|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | | |

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | X | X | X |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча,ініцыялы)

